№ I (38) Вільня, лістапад 1924 г. Цана асобнага нумару 10 грошау.

РАБОЧЫЯ І СЯЛЯНЕ УСІХ КРАЁУ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ЧЫРВОНЫ СЬЦЯГ

ОРГАН КАМУНІСТЫЧНАЕ ПАРТЫІ ЗАХОДНЕЙ БЕЛАРУСІ.

Няхай жыве злучаная Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка!



## АД РЭДАКЦЫІ.

Газэта „Чырвоны Сьцяг" („Красное Знамя") пачала выдавацца у Вільні у 1920 г. пры Савецкай Уладзе, як орган Камуністычнай Партыі Літвы і Беларусі. З прыходам аккупантау „Красное Знамя" выдавалася у падпольнай друкарні аж да вясны 1923 г. Пры Савецкай Уладзе партыя мела тэхнічныя магчімасьці выдаваць свае органы на усіх мовах краю. „Красное Знамя" з'яулялося тады газэтаю той часткі працоуных, для якое расейская мова была найбольш зразумелаю. Пасьля прыходу аккупантау у 1920 годзе, калі партыя зноу стала працаваць у падпольлі і тэхнічныя сродкі былі абмяжованы, — выданьне аддзельных органау на усіх мовах краю стала немагчіма. „Красное Знамя" у працягу падпольнага перыаду выдавалася ізноу у расейскай мове і больш менш задавальняла як партыйныя, так і спачуваючыя камуністычнаму руху працоуныя масы.

Але рэвалюцыйны рух за часы аккупацыі вырас і значна пашырыуся сярод працоуных вёскі, дзе усе мясцовыя мовы, апрача беларускае, мала зразумелы. „Красное Знамя" перастало такім чынам быць органам шырокіх масау і стала органам нялічнай групы рабочых і сялян, якія умеюць чытаць па расейску.

Прымаючы гэта пад увагу, партыя яшчэ у пачатку 1923 г. хацела выдаваць свой орган на беларускай мове, на роднай мове беларускай вёскі, а значыцца і тых работнікау, якія выйшлі з беларускай вёскі і за апошнія часы аккупацыі толькі зверху апалячаны.

Але па незалежным ад партыі прычынам—выданьне партыйнага органа было немагчымым больш чымсь паутара гады. Пасьля гэтага перарыву „Красное Знамя" ізноу пачынае выдавацца.

Перадавая „Чырвоны Сьцяг" у рукі працоуным ужо на мове беларускай, партыя мае пэуную надзею, што рэвалюцыйныя работнікі і сяляне Заходней Беларусі шчыльна злучацца навакол свайго „Чырвонага Сьцягу", будуць дапамагаць яму матэр'яльна і інфармацыямі аб сваім жыцьці і барацьбе з нягоднымі аккупантамі і пастараюцца пашырыць „Чырвоны Сьцяг" ва усіх кутках паняволянай Заходней Беларусі.

„Чырвоны Сьцяг" павінен стаць тым баявым Чырвоным Сьцягам, які злучыць навакол сябе усіх прыгнечаных нашага краю і павядзе іх на барацьбу

за зьніштажэньне буржуазнае улады!

за вызваленьне краю ад нягоднае польскае аккупацыі!

за злучэньне Заходней Беларусі з Беларускаю Савецкаю Рэспублікаю!

за Усясветны Саюз Сацыалістычных Савецкіх Рэспублік!

## Ад Ц.К.К.П.З.Б. і рэвалюцыйных рабочых і сялянау Заходней Беларусі.

У семую гадавіну Вялікага Кастрычніка Камуністычная Партыя Заходней Беларусі, а з ёю усе рэвалюцыйныя рабочыя і сяляне паняволянага нягоднымі аккупантамі краю, з цяжкага падпольля, з вастрогау і засьценкау панскае Польшчы, шлюць свае гарачае прывітаньне мільёнам пралетарыяу, сялян і чырвонаармейцау С.С.С.Р., якія ня толькі патрапілі зрабіць Вялікую Рэвалюцыю Кастрычніка, але й няроуным баю з сусьветным капіталам абараніць яе і пабудаваць Вялікі Саюз Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік, гэты залог Усясьветнае Камуны. З глыбокага падпольля мы з радасьцю і захапленьнем углядаемся на творчае эканамічнае і культурнае будауніцтва Саюзу Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік. Пралетарыят на дзеле даказвае, што ён здольны ажыцьцявіць мэты Вялікага Кастрычніка і пабудаваць новы сьвет.

Рабочыя і сяляне Заходней Беларусі, адарваныя сілаю буржуазеі ад свае рабоча-салянскае бацькаушчыны Б. С. С. Р., — шлюць ёй свае асоблівае братэрскае прывітаньне, пэуныя у тым, што у неузабаве з дапамогаю пралетарыату Польшчы скінем ярмо нягодных аккупантау і гвалтаунікоу і разам будзем змагацца, разам будзем будаваць Злучаную Савецкую Беларусь.

Чэсьць і слава бязьсьмертнаму Леніну, першаму салдату Вялікага Кастрычніка!

Чэсьць і слава многім і многім тысячам пралетарыяу, сялян, чырвонаармейцау, паушым у баю з капіталам!

Няхяй жыве вызваленьне рабочых і сялянау!

Няхай жыве Вялікі Кастрычнік на усім сьвеце!

**Цэнтральны Камітэт Камуністычнай Партыі Заходней Беларусі.**

## ШТО ДАЛА КАСТРЫЧНІКАВАЯ РЕВАЛЮЦЫЯ ДЛЯ ПРАЦОУНЫХ БЕЛАРУСІ.

Для Беларусі, як старонцы выключна земляробскай, зямельнае пытаньне зьяуляецца з прадвеку самай балючай і неадкладнай справай. Царскій урад вызысківау бяднейшае сялянства самым ганебным спосабам, абкладаючы іх непамерна вялікімі падаткамі. Абшарнікі—паны, якія густа расселіся на Беларусі, самапрауна распрауляліся з сялянствам, бо царскія паслугачы патуралі паноу у іх грабежствах. Бедны сялянін задыхауся на праспалосіцах ад безьзямельля і ад падаткау. Тысячы сямейств пакідалі родныя куты і выежджалі у далёкую Сібір. Поуная руіна і нэндза запанавала па беларускіх вёсках. Сталыпінскія рэформы яшчэ большыя масы абезьзямелілі і кінулі у залежнасьць абшарнікау. Не задаволілі сялян і абецанкі Керанскага. І толькі Кастрычнікавая рэвалюцыя сваім магутным выбухам разьбіла путы эканамічнага занепаду беларускай вёскі. Урэшце дарагія лятункі вясковага гарапашніка зьдзейсьніліся. Зямля перайшла у рукі сялян і прыватная уласнасьць на зямлю скасована на заусёды. Няcтала павукоу—паноу.

У першы чарод атрымалі без выкупу зямлю безьзямельныя і малазямельныя сяляне столькі, колькі змогуць самі абрабіць. Здача зямлі у арэнду, абробка яе пры дапамозе наймітау, — словам, эксплёатацыя чужое працы у сялянскай гаспадарцы абвешчана забароненай. Усяго на Беларусі нацыяналізавана 1.960.137 дзесяцін. Надзелены зямлёй 2884 безьзямельныя двары і 21932 малазямельныя.

Кастрычнікавая рэвалюцыя перадала у рукі рабочых і усе прамысловыя прадпрыемствы Беларусі. Фабрыканты—эксплёататары, каб магчы жыць, мусяць працаваць пры машыне равам з рабочымі на карысьць Савецкай дзяржавы.

Загінулі назаусёгды і страшэнныя падаткі, якія йшлі на роскаш і распусту пануючай багатай клясы. Цяпер рабочы і сялянін праз сваю выбраную уладу абкладаюць сябе падаткамі, якія ідуць на адбудову працоунай дзяржавы, на дабрабыт яе грамадзян. З паляпшэньнем экономічнага становішча Сав. Беларусі падаткі з кожным годам меншаюць, напрыклад, ужо у 1924 годзе падаткі з беднякоу зусім не бяруцца.

Лясы, капальні і усе багацьці зямлі пераходзяць на уладаньне рабоча-сялянскага ураду для задаваленьня патреб працоуным.

Пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі працоуны Беларусі вызваліуся ня толькі з пад уціску пана-абшарніка і фабрыканта, але дабіуся вызваленьня з пад панскай чужацкай культуры, вышау з векавечнай цёрмы і стау тварыць родную беларускую культуру на рабоча-клясовым грунце. За гэты кароткі час Савецкая улада здалела ужо даць Беларусі некулькі вышейшых школ, як Беларускі Дзяржауны Унівэрсытет, Сельска-гаспадарчы Інстытут, Пэдагогічны Інстытут. Цэлая сэтка тэхнікумау, тысячы беларускіх пачатковых школ і курсау для дарослых густа пакрываюць увесь абшар Усходняй Беларусі. Зьявіуся цэлы рад навукова-мастацкіх установ, як Інстытут Беларускай Культуры, Дзяржауная і Унівэрсытэцкая Бібліятэка, Дзяржауны Архіу, Музэй, Тэатр і розныя навуковыя Т-вы. Выдаюцца у беларускай мове газеты, часопісі, кнігі, ноты і г. д.

Кастрычнікавая рэвалюцыя вырашыла набалеушае нацыянальае пытаньне, паставіушы нацыянальнае адраджэньне не як мэту, а як средства да здабыцьця усясьветнага дабрабыту працоуных. Усе народы, якія жылі у б. Расіі у стршнай ненавісьці адзін да другога, цяпер будуюць сваю долю у дружым супрацоуніцтве — адзін за усіх і усе за аднаго. Тое самое у Сав. Беларусі. Палякі, жыды і расейцы маюць роуныя правы з беларусамі, маюць свае школы, газэты і гэтак далей. Такім чынам беларуская нацыя хоць і зьяуляецца дзяржаунай, аднак не будуе сваёй волі на крыудзе другіх нацыі, як гэта робіць белапольскі урад, а наадварот, наша воля прыносіць волю і тым, хто з намі жывець.

Пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі краем стау упрауляць і выдаваць законы Усебеларускі Зьезд Саветау, які выдзеляе з сябе Выканаучы Камітэт. Для праведзеньня у жыцьцё пастаноу Зьезду назначаецца Савет Народных Камісарау, які адпаведны за сваю працу перад усім працоуным народам Беларусі. Усе гэтыя дзяржауныя установы перавыбіраюцца. Старшынёй Выканаучага Камітету ужо колькі гадоу падрад перавыбіраецца А. Чарвякоу, які паходзе з малазямельных сялян Чэрвенскага павету з Меншчыны. Такім чынам рабочы і сялянін выбірае, упрауляе і судзіць, ён сам сабе гаспадар і каваль сваёй долі.

Толькі Кастрычнікавая рэвалюцыя змагла перарадзіць рабочага-найміта, сяляніна-раба у у вольных тварцоу новага жыцьця, у волатау працы, якія мазалістай рукой рашуча паварачываюць кола гісторыі у бок камунізму.

## БАРАЦЬБА ЗА ВЯЛІКІ КАСТРЫЧНІК НА БЕЛАРУСІ.

### 1. Пераварот у Ленінградзе.

Сем гадоу таму назад, па старому стылю 25 кастрычніка, пачалася Вялікая Пралетарская Рэвалюцыя.

Пад кірауніцтвам бальшавікоу і іх бязьсмертнага правадыра Леніна паустау рабочы Ленінград. Нядоуга трывау бой. Адным махам, адным сьмелым ударам рабочыя, матросы і рэвалюцыйныя сяляне скінулі буржуазны урад Керэнскага. Сам Керэнскі уцёк. Другі Усерасейскі З'езд рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатау, які сабрауся у гэты час у Ленінградзе, зацьвердзіу Вялікі Пераварот і аб'явіу уладу Саветау. Пабеда у сталіцы акрыліла энтузіазмам працоуныя масы. За Ленінградам — Масква, Харкау, Урал, уся Расея. Усюды агенты буржуазнага кадэцка-эсэрауска-меншавіцкага ураду былі скінуты. Усюды з вялікім пад'емам рэвалюцыйнай энэргіі, з боем падымаліся чырвоныя сьцягі Саветау.

Пабеданосная рэвалюцыя, як віхор, крышыла і ламала стары сьвет.

### 2. Пераварот у Менску і на Беларусі.

На Беларусі Вялікі Кастрычнік пачауся у абставінах фронту. Асяродкам рэвалюцыі тут з'яуляецца Менскі Гарадскі Савет. Большасьць сяброу яго — бальшавікі (184 дэпутаты з 337). Ініцыятыву рэвалюцыі ён бярэ у свае рукі. Ужо 25 кастрычніка Менскі Савет атрымау радыотэлеграму з Ленінграду № 1. Там сказана, што пераварот адбыуся і даецца загад ня пускаць з фронту ненадзейных вайсковых групау.

Менскі Савет з свайго боку выдае прыказ № 1, які абвяшчае уладу Саветау. Каб пашырыць уладу Саветау на усю Беларусь, 26 кастрычніка Менскі Савет арганізуе ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходней Вобласьці.

27 кастрычніка прыхільнікі Керэнскага думаюць абараняцца. Арганізуецца так званны „Комитет Защиты Родины и Революции".

Але работніцкія, салдацкія і сялянскія масы за Саветы!

Ужо у ноч з 1-га на 2-е лістапада бальшавіцкі бранявік прымушае камітэт абароны і франтовы камітэт бяз бою здацца.

Так адбыуся пераварот у Менску і у той частцы Беларусі, якая знаходзілася на усход ад фронту. 19 і 20 лістападу тры з'езды: а) рабочых і салдацкіх дэпутатау Менску, в) сялянскіх дэпутатау і с) франтовы з'езд разам выбіраюць першую краевую уладу — Выканаучы Камітэт Саветау рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатау Заходней Вобласьці, або коратка „Абліскамзап."

### 3. Гібельныя памылкі.

У часы Вялікага Кастрычніка беларуская нацыанальна-рэвалюцыйная думка аказалася не падрыхтаванаю да вялікіх падзей. Выхаваная на ідэях дэмакратызму, блізкая да эс-эраувства і меншавізму, у рашучы час рэвалюцыі яна не зразумела свае задачы і нарабіла шмат гібельных памылак у сваёй тактыцы.

Замест таго, каб моцна зьвязаць свой лёс з рэвалюцыйным пралетарыатам і бальшевізмам, яна хістаецца на права і на лева, аглядваецца назад, ня мае выразнага шляху.

Вялікая Беларуская Рада, зложаная са усіх беларускіх арганізацыяу, як Беларуская Сацыялістычная Грамада, Беларуская Вайсковая Рада, Рада Беларускіх арганізацыяу і партый, выявіла памылковую тактыку ужо у першыя дні Кастрычнікавай Рэвалюцыі.

Яна стаіць **на грунце адзінага нацыанальнага фронту**. У самы разгар барацьбы паміж Менскім Гарадскім Саветам і Кераншчынаю, яна хоча заняць асобную пазыцыю. 27 кастрычніка Вялікая Беларуская Рада выдае сваю „грамату да беларускага народу". Грамата пакіравана да „усіх жывых сілау Бацькаушчыны" і кліча адкінуць ад сябе „сеючыя нязгоду поклічы" і быць „асьцярожнымі" у сваіх дзеях. Зразумелая рэч, што такая „асьцярожнасьць" не магла прывясьці да дабра.

І калі 14 сьнежня 1917 г. у Менску сабрауся Усебеларускі З'езд, скліканы Радаю з дазволу Цэнтральнага Савецкага ураду і пры яго матэр'яльнай дапамозе, калі гэты кангрэс у складзе 1872 дэлегатау пад уплывам беларускіх сацыял-згоднікау прыняу вельмі „асьцярожную" рэзалюцыю, у якой прынцыпова прымаецца не Савецкі строй, з рэспубліканска-дэмакратычны, і адначасна з гэтым ухваляецца утварыць „часовы" выканаучы орган у асобе „Усебеларускага Савету Сялянскіх, Салдацкіх і Рабочых дэпутатау", — то зразумелая рэч, што гордая пралетарская рэвалюцыя не магла сьцярпець такое „асьцярожнасьці". З'езд быу прызнаны контрэвалюцыйным. У ноч на 18-е сьнежня яго разагнау сілаю абліскамзап.

Выйкі гэтае памылкі былі аграмадныя. Рэвалюцыйная улада пачала рашучую барацьбу з беларускімі нацыанальнымі арганізацыямі, якія прымалі удзел у З'ездзе. Яны схаваліся у падпольле і зрабіліся яуна варожымі да Савецкае Улады. Вырашэньне нацыанальнага пытаньня такім чынам часова адрываецца ад сацыяльнае рэвалюцыі.

